*бацькам прысьвячаю*

* * *

на возеры Вялікім
на беразе якога мой дзед
жыў на ўласнай зямлі
усё гэта й адбывалася —
і нараджэньні
і сьмерці
і каханьні
і здрады
і шчасьце
і роспач
і хваробы
і выздараўленьні

і гэта ўсё разам
называецца жыцьцём

менавіта тут
ля возера Вялікага
я разьвітаўся з бацькамі

і дзякуй Богу
што ёсьць возера Вялікае
куды можна вяртацца
дзе можна паплакаць
дзе над самымі хвалямі
іскрыста-серабрыстымі
лётае белая кірля
майго лёсу

## Човен

Паміж хваляў човен чорны.
Ў рэчцы — чорная вада.
Не відаць на дне нічога —
Барада вадзяніка
Захінае дно старанна
І матляецца, як віж,
Таямніца дна схавана
Ад вачэй і рук паміж
Вечак ракавін замшэлых,
Хваляў чорнае ракі.
Ад вясла вакол цішэе
Сьпеў пудлівай асакі.
Рэчка сунецца няспынна,
Як у дрэве жыўны сок.
Човен лісьцікам з галіны
Ціха ляжа на пясок.

* * *

калі туман
захінае ўсё наваколле
і наўрад ці знойдзецца сьмяльчак
праз балота ісьці да возера
на белы сьвет
паказваюцца легенды

толькі вершаліны алешын
тырчаць з туману

толькі кволы званочак
блукае ля возера

толькі таемны лесаруб
аднастайна цюкае сякерай
па сухой яліне

* * *

ніколі раней
кнігавак тут ня бачыў
можа не заўважаў
не ўглядаўся
не цікавіўся
а вось пабачыў
і такая радасьць
мяне агарнула
што здаецца
назіраў бы і назіраў
за гэтымі зграбнымі
прыгожымі птушкамі

вось таму мае
родныя кнігаўкі
вы й трапілі
ў гэтую кнігу

* * *

прачнуліся птушкі — а дзень ужо
скончыўся
пець пачалі — сонца клікаць
сонца пабудзілі — ды самі стаміліся
сон змарыў — дзе сядзелі там і паснулі
а тая што ў палёце была
зоркай зазьзяла — вечарніцай

* * *

вялікі грак
ідзе наперадзе
сьцярожка іду
сьледам
па той сьцяжыне
якая некалі
вяла праз жыта
а цяпер зьнікла
у разорах
бульбянога поля

* * *

нельга зачыняць
дзьверы ў пуню
бо там жывуць ластаўкі
так казала бабуля
нам унукам
калі вясёлай кампаніяй
прыяжджалі да яе
пасьвіць кароў

не зачыняць дзьверы
для ластавак
толькі гэтую
бабуліну забарону
і памятаю

* * *

пад сьнегам
невялічкі карэньчык
чакае вясны
каб выбухнуць
фантастычнай кветкай

* * *

яліна якую некалі мы
пасадзілі невялічкім дрэўцам
глядзіць з вышыні сваёй вершаліны
на дарослых дзяцей
з каляднымі цацкамі

* * *

калі зьбіраў пад дзедавым
дубам жалуды
згадаў як у школе
на ўроках працы
нас вучылі рабіць
зь іх чалавечкаў
і цэлы дзень
думка не давала
мне спакою
чаму нас не навучылі
расьціць з жалудоў
сапраўдныя дрэвы

* * *

Як зорка мігціць паміж хмараў абложных,
так кліча вандроўка між кветак і пожняў.
І ўнукі затым будуць чуць, як паданьні, —
— пра выспы, пра човен, пра лёс і каханьне.

# ТРОХРАДКОЎІ

* * *

чаму я заўсёды
пазнаю цябе
вецер з аеравым пахам

* * *

на драўляным мастку
цікаўная каўка
лічыць у вадзе апалонікаў

* * *

залатыя карасі
зашыліся ў твань
рабаўніка адчулі

* * *

на лагодных хвалях
адпачываюць кірлі
вецер іх гушкае

* * *

гарэзьлівыя русалкі
лёскі блытаюць
маладому рыбаку

* * *

у маскіровачных цяльня2шках
акуні ля берага
стаіліся ў засадзе

* * *

хтосьці на глыбіні
наладжвае з раніцы
танцы водарасьцяў

* * *

ледзь ня выскачыў
шчупак на бераг
захапіўся пагоняй

* * *

чараты выгінаюцца
нібы вадзянік грае
на іх рок-н-рол

* * *

ля лодачнай прыстані
інспэктар-кот
правярае ўловы

* * *

намоклыя рамонкі
схіляюць галовы
дождж не сьціхае

* * *

вецер такі лагодны
што нават дзьмухаўцы
некранутыя

* * *

калі маеш возера
то так не хапае
яшчэ й ракі

* * *

а ўвогуле
бруд баіцца
бруістай вады

* * *

інвазійныя травы
уздоўж дарогі
спадарожную чакаюць

* * *

так усё хістка
і як на гэта не зважаць
калі так усё хістка

* * *

капліца пабудаваная
прадзедам Андрэем
мой Нотр-Дам

* * *

у збуцьвелай капліцы
вечаровы прамень
дакрануўся да крыжа

* * *

на гарышчы хаты
палавінкі абраза
глядзяць адна на адну

* * *

любімы валун
расьпілавалі
агаломшаны

* * *

ці можа існаваць
сапраўдны засьценак
бяз засені дуба

* * *

дзедава хата
моцна абгарэлая
яшчэ не здаецца

* * *

ля засьцянковага дуба
паспрабаваў уявіць
дзедава вясельле

* * *

мама на фотаздымку
яшчэ толькі зьбіраецца
у першы клас

* * *

пабачыліся абняліся
і разьвіталіся
да наступнай Радаўніцы

* * *

ня ведаю як сасьніць
свайго дзеда
якога ніколі ня бачыў

* * *

у прыцемак адрыны
зыркі прамень
ліецца з космасу

* * *

мама згадвае дзяцінства
нібыта апавядае
пра ўчорашні дзень

* * *

зязюля кувае
і па знаёмстве
далічвае

* * *

кладу ў імбрычак зёлкі
пры гэтым вымаўляю
сапраўднае імя кожнай

* * *

на валуне
сьлед застаўся
Вялеса

* * *

заклапочаныя шпакі
ходзяць па ральлі
нібы штосьці згубілі

* * *

у нядошлым «пазіку»
абдымаю торбу з хлебам
еду да бабулі

* * *

лясная сьцежка
да засьценка бабулі
падрыхтавала гасьцінцы

* * *

на белай печы
як начынка пірага
сушаныя чарніцы

* * *

бабулінай беларускай мове
маглі б павучыцца
і Купала і Колас

* * *

у Гілімскім лесе
бягуць мне насустрач
мае грыбы

* * *

на куст дзікага вінаграду
узьлез па хісткім плоце
чорным ротам пасьміхаюся

* * *

ягадны жур
у алюміневай місе
згадка дзяцінства

* * *

па ранішняй расе
у мокрых кедах
сьцежку пракладаю

* * *

з братам на лаўцах
смажым сала
каровы разбрыліся

* * *

на вялікі валун
узьлез як на гару
возера ўбачыць

* * *

дым з коміна
як сыгнал унукам
пра хуткую вячэру

* * *

з паўнюткага вядра
у алюміневую конаўку
наліваю сабе сырадою

* * *

крамяныя антонаўкі
з квашанай капусты
дэсэрт бабулі

* * *

бацькаў легкавік
ля самых дзедавых варот
нэрвова буксуе

* * *

на матацыкле брата
лячу невядома куды
па лясной дарозе

* * *

усё было б добра
калі б не каршун
які невядома адкуль узяўся

* * *

ад старога дуба
хаваем праўду
пра лесарубаў

* * *

каровы йдуць з пашы
як на карціне мастака
Гаўрылы Вашчанкі

* * *

месяц заўсёды
такі вялікі
над родным лугам

* * *

вечаровы туман
ідэальна выраўноўвае
узгорыстую мясцовасьць

* * *

дождж з возерам
утвараюць пры сустрэчы
сяброўскія кругі

* * *

кастрычніцкі вецер
запаліў уздоўж дарогі
вольхі як паходні

* * *

кажан да скуры
працёр свае крылы
націраючы поўню

* * *

для глуханямой поўні
пальцам па шыбіне
выводжу словы

* * *

вось і верасень
сіні сушыць
свае вёслы

* * *

ня маючы голасу
лаўлю губамі
ноты разьвітаньня

* * *

колькі ні ўглядаюся
у вазёрны далягляд
ня бачу мінулага

* * *

хаджу зь вёсламі
уздоўж берагу
шукаю свой човен

* * *

бабры не стамляюцца
будаваць па суседзтве
свой драўляны Бабілён

* * *

зацепліць вогнішча
і схавацца ад начы
у сьвятло агню

* * *

слухаць ля вогнішча
вусьцішныя расповеды
устрывожанай савы

* * *

*Данілу*

адмыслова для сына
ураньні паказаць
як возера прачынаецца

* * *

набыў саколку
з патрыятычным прынтам
еду на возера

* * *

з царэўнай-жабкай
зрабіць на разьвітаньне
маляўнічае сэлфі

* * *

упарта згадваю
адну і тую ж відзежу
па вузкакалейцы
едзе цягнічок
гружоны торфам
так выразна яго бачу
што магу
распазнаваць лічбы
на бартах вагонаў

грукоча цягнічок коламі
мільгаціць у вачах лічбамі

ужо і сьледу не засталося
ад той вузкакалейкі
а цягнічок усё некуды
сьпяшаецца

* * *

шляхетных аленяў
статак пабачыў
на полі калгасным
хіба ня добры знак
для калгаснага ладу

## Быцьцё

марны занятак — зьбіраць
дажджавыя кроплі
аб’яднаныя
яны зьнікаюць
мяняюць сваю сутнасьць
ператвараюцца ў вільгаць
і нават адную кроплю
немагчыма
трымаць у няволі

* * *

там дзе ў дзяцінстве лавіў
бляшанкай трытонаў
пабудавалі шматпавярховік
і калі надараецца праходзіць
побач зь ім
сама сабой узьнікае
думка
у якой кватэры гэтага дому
жывуць сёньня пацешныя
маленькія цмокі
з аранжавымі цельцамі
я нават даслаў бы ім паштоўку
зь якой-небудзь
далёкай вандроўкі

## Яшчарка

*Антону*

У яшчаркі свае шляхі,
Свае таемныя сьцяжынкі,
Жыцьцё, схаванае ў імхі,
Пясок, каменьчыкі, сьцяблінкі.

Лісты, жыцьцё ў якіх усё, —
Шторанньня на пяску ля ганка,
Як іерогліфы Басё,
Як вершык хоку або танка.

## Стаў,
## да якога вядзе ўтравелая сьцежка

як за павелічальным шклом акварыюма
праплывае міма вялікі карась
парцалянавым вокам блізарука
ўглядаецца наўкол —
кожным вокам бачыць рознае?
зьлева
справа
глядзіць цікаўным цялячым позіркам
ягонае цела —
сьцяна залатой лускі
ягоныя рухі —
гайданьне вершаліны стромкага дрэва
ён вяртаецца каб яшчэ раз падзівіцца
на надзею
якую ты закінуў у гэты балацяны стаў

## Праз возера ў школу
*(згадвае мама)*

У восьмым, дзявятым і дзясятым класах я вучылася ў Юраве. Восем кіламетраў кожны дзень. У пяць гадзінаў прачынаюся, пасьнедаю — і ў школу. У Бабіным Лесе жыла татава стрыечная сястра, Юзафовічы. І яны, дзеці сястры, з Бабінага Лесу таксама хадзілі ў школу ў Юрава. Ім нават далей было. Хаця не, нам трэба было яшчэ да Каменнага Мастка дайсьці, а яны ішлі напрасткі. Таму ім бліжэй нават было. Па дарозе мы сустракаліся. У мяне торбачка была, мама пашыла. Валодзя, сын татавай сястры, кажа мне: «Давай я табе дапамагу несьці». А мне пакладуць у торбачку кавалак хлеба з маслам ці яшчэ з чымсьці. Пакуль нясе гэтую торбачку, зьесьць мой хлеб. Я кажу: «Валодзя, што ты зрабіў?» А ён: «А я зарабіў, я ж табе торбу нёс». І цэлы дзень, як пайду ў школу ў шэсьць гадзін, а заняткі ў восем пачыналіся, то дамоў вяртаюся недзе ў тры-чатыры гадзіны, галодная. А зімой хадзілі праз возера. Гэта на тры кіламетры бліжэй. І ваўкоў сустракалі. І ў залеву, і ў завею траплялі. Усялякае здаралася. Раней зімы іншыя былі. Сьнегу колькі. Сумёты па пояс. І хадзілі. І вучыліся. Я добра вучылася.

* * *

я хацеў напісаць верш
ды толькі дождж мне перашкодзіў
ён размыў сьцяжыны
і зьнішчыў твае сьляды

цяпер я блукаю
паміж нашымі
першай і апошняй
сустрэчамі
між якімі ўзышла
вясёлка

# Кропка адліку

за маё жыцьцё тут некалькі разоў
усё істотна зьмянялася
зьнік лясок які атачаў
мясцовыя могілкі
дзе быў доўгі луг
паміж балотам і калгасным полем
сёньня падлесак і дзікія хмызы
а на невялікім полі
з боку дарогі на Бабін Лес
роўненькімі радамі
растуць сьвежыя хваёвыя пасадкі
і нават балота
якое атачала возера
марна разьлічвала
на сваю патрыярхальную
непрыступнасьць
у 90-х тут здабывалі торф
і балота амаль зьнікла
і толькі возера Вялікае
нязьменна застаецца
на сваім месцы
як цэнтар мясцовых каардынат
як кропка адліку

* * *

ёсьць адзіны час
і ёсьць безьліч стрэлак
якія гоняцца за ім
па пятах
за кожнай сэкундай
за кожнай хвілінай
за кожнай гадзінай

* * *

ля драўлянай капліцы
якая хутчэй награваецца
ад веснавога сонца
шчыльным гуртом
грэюцца замшэлыя
уросшыя ў зямлю
надмагільныя камяні

* * *

працяжнікі між думкамі
бязважкія неўтаймаваныя
яны бестурботна мігцяць
у стракатым карагодзе

* * *

раней да возера
можна было прайсьці
толькі па сьцежцы
між балотных купін
а цяпер тут зьявілася
дарога па якой
зручна даехаць
на аўтамабілі
да самага берагу
раней на возеры
сустрэнеш хіба
толькі свайго
а цяпер тут
амаль турбаза

* * *

калі прыйшла зіма
і выпаў сьнег
я ўбачыў вакол сваёй хаты
процьму сьлядоў

дзіва
а я думаў
што мой хутар
бязьлюдная выспа

* * *

калі возера замярзае
а так бывае штогод
сюды прыходзяць людзі
сьвідруюць дзіркі ў лёдзе
і зьвяртаючыся да глыбіняў
чытаюць свае мантры
прыпраўленыя матылём

у схаваных пад ільдом
глыбінях
таемныя рухі адгукаюцца
і цені пункцірамі
пазначаюць перамяшчэньні
і дзіўныя гукі
пераадольваюць тоўшчу вады
нібыта нехта падае сыгналы
або проста выходзіць на сувязь

* * *

на супрацьлеглым
беразе возера
дзе ніколі ня быў
здаецца існуе
іншы край
у якім
усё інакш
ня так
як тут

## Поўны кашур еджгуроў і платвы
*(згадвае хросны бацька — дзядзька Андрэй)*

Гэта было адразу пасьля вайны. Галадуха. Трэба ісьці ў школу. Я ў чацьверты клас хадзіў. Кажу маме: «Штосьці мне здаецца, рыба на возеры сёньня павінна быць». — «А табе, Андрэй, толькі бы са школы зьбегчы». Я кажу: «Мама, схаджу я». Бяру кашэль і кашур і пайшоў. Прабіў лядок. Сьледам прыходзіць на возера сусед, дзядзька Міша. Я раз — і не магу кашур выцягнуць. Кажу: «Дзядзька Міша, відаць, я зачапіўся». — «Не, — гаворыць ён, — відаць, рыба». Пачынае мне дапамагаць. Бог ты мой... поўны кашур еджгуроў і платвы. Дзядзька Міша кажа: «Ідзі там за кустом растапчы сьнег і насі туды рыбу». І я пачаў насіць. Затым пабег да мамы. «Мама, мама, давай санкі і нейкі мех або посьцілку, я рыбы налавіў!» Пайшлі з мамай тую рыбу забіраць. Цётка Поля з Бабінага Лесу дапамагала рыбу ўпарадкаваць. Хапіла ўсім.

* * *

маланка якая ўдарыла
у тэлевізійную антэну
хаты дзеда Захара
ніяк не чакала
што на яе шляху
стане абраз зь лікам Хрыста
які заўжды вісеў
у гэтым куце

абраз раскалоўся
на дзьве часткі
і ўпаў на падлогу

хата засталася цэлай
і нават тэлевізару
нічога не сталася
хоць па-шчырасьці
менавіта ён і быў вінаваты
ў гэтым вераломным удары маланкі

а хата ўсё адно загарэлася
праўда праз сорак гадоў
калі абраз ужо не вісеў
на звыклым месцы
у куце пад антэнай

* * *

раптам усьведамляеш
у гэтай капліцы
сумоўнічалі з Хрыстом
тры пакаленьні тваіх продкаў

* * *

Мой голас дакранецца да крыжоў.
Адчуе прахалоду ценяў.
Спужае велічных смаўжоў,
Яны па сховах распаўзуцца
з годнасьцю аленяў.

Тут ціха, тут ня трэба слоў.
І голас мой скандэнсаванай кропляй
Пакоціцца на дзедаў часаслоў, —
На ім і сёньня воск сьвяты растоплены.

## Мяне пахрысьцілі падчас вайны
*(згадвае мама)*

Мне было, напэўна, тры, можа, чатыры гады. Помню, тата запрог каня. І мы паехалі ў нейкую вёску. І там зьявіўся бацюшка. Сабралі дзяцей з навакольля, недзе каля дваццаці. Пятровіч Платон, што на горцы жыў, вось яго жонка Алена стала маёй хроснай. А хросным бацькам мама запісала дзеда Паўла. Ён тады быў у лягеры, у нямецкім палоне. У нас у сям'і ўсіх дзяцей хрысьціў дзед Павел, мамін брат. Я помню, тата стаяў, мама побач. Памятаю, пырскалі, мазалі. І гэта было летам. Відаць, у жніўні. Бо памятаю, нарвала я ў кішэньку струкоў гароха, вось захавалася такое ў памяці, і паехалі хрост прымаць.
Мая мама скончыла чатыры класы царкоўна-прыходскай школы ў Юраве. Яна нават на латыні ўмела чытаць. Кожную нядзелю мама не працавала. Або чытала Евангельле, або нейкую іншую кнігу. Была вельмі разумная. Вось яна бліны пячэ. А ў мяне ніяк задача не атрымліваецца. Я кажу: «Мама, ну дапамажы». — «Ну, чытай». Я ёй прачытаю. Яна паслухае і кажа: адказ павінен быць такім — і патлумачыць чаму, а як ты запішаш рашэньне — гэта твая справа. Я нават у восьмым класе ў яе прасіла дапамогі.

* * *

Над балотам захад сонца.
Пасярод, нібыта рана,
Багны дрогкае ваконца
Чырванее. За парканам,
З трысьнягу, аеру, хлуду,
Цішыня — як погляд Бога,
Быццам там чакаюць цудаў,
Ці даўно няма нікога.

* * *

працавітая каса нічога ня ведае
пра ўдоі і малочныя прадукты
бо нават чалавеку
цяжка ўцяміць
як трава ператвараецца
ў малако

* * *

разглядаю твае карціны
і шукаю месца
дзе мне было б утульна
сярод тваіх сюжэтаў і фарбаў
і ніяк не магу
вызначыцца
бо і на сядзібе добра
і ля Сафійскага сабора
выдатна
і з птушкамі цікава
ды толькі возера Вялікае
ты яшчэ не намалявала
таму я пачакаю

* * *

бляклае сьвятло месяца
ледзь прыкметная дарога
і ўсё
і больш нічога
толькі поле і дарога
у нікуды
да месяца
і зор

## Ветах

Зноўку нашыя спадзяваньні —
Як жарынкі, што рушылі ў космас.
Ветах будзе трымацца да раньня,
Распаўсюдзіць таемныя позвы.

Вершалінамі дрэвы ня з намі,
Вершаліны — паверх таямніц.
Адлятае лістота клінамі
Без гайворанаў і сініц.

Сочыць рухі бяскрылыя ветах,
Распачатыя ўверх кагадзе.
На дагледжаны зорны палетак,
Як насеньне, лістота ўпадзе.

* * *

на возеры Вялікім
мае чаўны ўспамінаў
плывуць на чырвань сонца
па вечаровых сьцежках

насамі хвалі рэжуць
паказваюць умельства
цьмянее чырвань сонца
а хвалі не сьціхаюць

і бераг супрацьлеглы
удакладніў абрысы
за далягляд на чырвань
лятуць чаўны як птушкі

# Змест

**Аркуш А.**
А82 Возера Вялікае : вершы / Алесь Аркуш. — Полацак : Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда», 2018. — 68 с.

Кніга «Возера Вялікае» – гэта паэтычны распавед пра родныя мясьціны маці паэта, якія моцна паўплывалі на яго станаўленьне і разуменьне сваёй радзімы, уласнага радаводу і лёсу.

